МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ’ЯДНАННЕ “ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

**№1** (153)
**студзень 2015**

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:



НАВІНЫ МГА “ЗБС “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

## 2014 ГОД У ЖЫЦЦІ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

У нашым невялікім аглядзе мы прапануем узгадаць тое, чым жыло беларускае замежжа летась.

Падрабязна пра дзейнасць Згуртавання “Бацькаўшчына”, у тым ліку як каардынатара культурніцкай кампаніі “Будзьма беларусамі!”, а таксама пра навіны з беларускага замежжа мы інфармавалі праз бюлетэнь “Беларусы ў свеце” і сайт zbsb.org. Аднак варта яшчэ раз адзначыць самыя важныя і знакавыя з падзеяў.




*Актывісты новастворанага Беларускага культурнага руху Малдовы*

Безумоўна, вельмі важным стала прыняцце ў чэрвені Закона “Аб беларусах замежжа”, які падвёў пэўную рысу пад шматгадовымі намаганнямі Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” і беларускай дыяспары (Закон уступіў у сілу ад 21 верасня). Наперадзе — праца па ўнясенні канкрэтных прапановаў у змест самой дзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да беларускага замежжа.

Вартай увагі падзеяй стала і стварэнне Цэнтра камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа пры Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Гэтай ініцыятывай пакладзены пачатак сістэматычнаму выяўленню, захаванню, апісанню, вывучэнню і папулярызацыі дакументальнай спадчыны беларускага замежжа. “Бацькаўшчына” вітае гэтую падзею і будзе спрыяць папаўненню архіва Цэнтра.

Яшчэ адной новай ініцыятывай стала заснаванне Прэміі імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў (эмігрантаў у ЗША) за кнігу ў галіне непрыдуманай літаратуры. Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” – адзін з партнёраў гэтай прэміі разам з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва, Саюзам беларускіх пісьменнікаў і выдавецтвам “Лімарыус”.

2014 год, асабліва яго першая палова, вызначыўся юбілеямі беларускіх арганізацый у замежжы. Так, у лютым адсвяткавала 20-гадовы юбілей Беларускае культурна-асветніцкае таварыства “Уздым” у Даўгапілсе. У сакавіку ў Йыхві беларусы з розных рэгіёнаў Эстоніі святкавалі 25-годдзе Беларуска-эстонскага згуртавання (БЭЗ). Услед за ім, у красавіку, 25-годдзе адзначыла Таварыства беларускай культуры ў Літве (Вільня).

У траўні 60 гадоў дзейнасці святкавала адна з найстарэйшых беларускіх арганізацый на Захадзе — Англа-беларускае таварыства (Вялікабрытанія). А ў верасні 70-годдзе заснавання і дзейнасці адзначыў ІІ Агульнаадукацыйны ліцэй з дадатковым вывучэннем беларускай мовы імя Б. Тарашкевіча (Польшча).

Важным сведчаннем беларускай дзейнасці ў замежжы ёсць 22-ая канферэнцыя “Санкт-Пецярбург і беларуская культура”, што адбылася ў чэрвені ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы з ініцыятывы Санкт-Пецярбургскай асацыяцыі беларусістаў; а таксама 31-ая Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, што адбылася традыцыйна ў жніўні ў Нью-Ёрку. Пасля трохгадовага перапынку ў Мінску прайшоў ІІ Фестываль мастацтваў беларусаў свету.

Супольнасць беларускай дыяспары пабагацела: у Малдове 30 сакавіка паўстаў Беларускі культурны рух Малдовы.

➲

## 2014 ГОД У ЖЫЦЦІ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

І гэтая, і многія іншыя беларускія супольнасці ў свеце вялі актыўнае жыццё: арганізоўвалі імпрэзы, выдавалі газеты ды часопісы, пісалі і друкавалі кнігі, бралі ўдзел у тэле- і радыёперадачах, прадстаўлялі свае суполкі на рознага кшталту мерапрыемствах мясцовага і дзяржаўнага альбо міжнароднага ўзроўняў: гэта і фестывалі, і канферэнцыі, і кангрэсы, і дыскусіі. Беларусы розных краінаў ушаноўвалі памяць нашых слынных дзеячаў і ладзілі акцыі салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі, праводзілі літаратурныя і музычныя сустрэчы, адкрывалі выставы. Ва ўсім свеце беларусы шырока адзначалі такія памятныя для Беларусі даты як Дзень Волі, 500-годдзе бітвы пад Оршай ды ўгодкі Слуцкага збройнага чыну, а таксама такія народныя святы як Купалле, Дзяды або Каляды.

Так, вельмі актыўным быў гэты год у беларускім жыцці Малдовы. Летась тут быў створаны Беларускі культурны цэнтр імя Янкі Купалы. На рэспубліканскім радыё з’явілася штомесячная перадача Генадзя Зяньковіча на беларускай мове. На сёння ў Малдове існуе дзесяць беларускіх супольнасцяў, і ўжо згаданы новастораны Беларускі культурны рух адразу заявіў пра сябе плённай дзейнасцю, напрыклад, актыўным удзелам у форуме нацыянальных меншасцяў Малдовы, у Днях славянскага пісьменства і культуры, правядзеннем святаў. Сярод найбольш значных дасягненняў арганізацыі назавем праект “Дзверы да этнічных каранёў”, асноўная мэта якога – сустрэчы беларускіх дзяцей замежжа з этнічнай Радзімай.

У беларусаў Латвіі мінулы год таксама быў багаты на падзеі. У красавіку ў Цэнтры беларускай культуры ў Даўгаўпілсе адкрылася народная беларуская бібліятэка. У Акадэмічнай бібліятэцы Латвійскага ўніверсітэта ў Рызе прайшла выстава “Янка Маўр і Якуб Колас: Разам па жыцці”, якую падрыхтавала Марыя Міцкевіч. Аб’яднанне мастакоў-беларусаў Балтыі “Маю гонар” падарожнічала з выставамі па Латгаліі. Суполкі, што ўваходзяць у склад Саюза беларусаў Латвіі, правялі ў сваіх гарадах Дні культуры Беларусі.

Важную справу ўдалося зрабіць беларускай суполцы “Скарына” ў Чэхіі: цяпер магілы прэзідэнтаў Рады БНР Пётры Крачэўскага і Васіля Захаркі, а таксама спевака Міхася Забэйды-Суміцкага на Альшанскіх могілках у Празе ўзятыя пад яе апеку.

І гэта толькі некаторыя прыклады.

2014 год быў багаты і на кніжныя выданні, прысвечаныя замежжу. Пабачылі свет кнігі маскоўскага беларуса Аляксея Каўкі “Мае беларусы”, кніга ўспамінаў амерыканскага беларуса Васіля Стомы “Маё мястэчка”, што ўвайшла ў дзясятку найлепшых навукова-папулярных кніг паводле версіі “Радыё Свабода” ды за якую атрымаў удзячнасць ад нью-ёркскага Беларускага інстытута навукі і мастацтва моваазнавец Зміцер Саўка. Падзеяй стала выданне Збору выбраных твораў айца Аляксандра Надсана, а таксама доўгачаканае выданне даведніка “Сузор’е беларускага памежжа” пад рэдакцыяй Адама Мальдзіса. Папоўнілася і серыя “Бібліятэка Бацькаўшчыны”, заснаваная Згуртаваннем у 2004 годзе. Пры канцы года ў ёй пабачыла свет і другая кніга, прысвечаная беларускаму дзяржаўнаму прадстаўніцтву ў замежжы “Рада БНР (1970—1982): Падзеі і дакументы”. Пэўны працяг атрымалі і замежныя беларускія часопісныя праекты: аднаўлены навуковы лонданскі “The Journal of Belarusian Studies”, канадскі інтэрнэт-праект “Сакавік: Культура, нацыя”, нью-ёркскі літаратурны альманах “Беларус”.

На жаль, год не абышоўся без стратаў. Адышлі беларускія дзеячы замежжа, сярод якіх Ірына Аржахоўская, Міхась Белямук, Алесь Каляда, Мікола Прускі, Юрка Станкевіч, Уладзімір Чапега, а таксама вядомыя дзеячы, сябры ЗБС “Бацькаўшчына” з Беларусі Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін.

Негатыўнымі з’явамі сталі падзеі ў беларускім жыцці Вільні, звязаныя са справай беларускіх дамкоў, а таксама звальненне Лены Глагоўскай з Беластоцкага ўніверсітэта.

Спадзяемся, 2015 год увойдзе ў гісторыю толькі добрымі здзяйсненнямі, а 2014 год застанецца ў памяці як яшчэ адзін год, калі ўсе мы разам працавалі на захаванне і развіццё беларускай культуры ў свеце і на Радзіме. Больш падрабязна з дзейнасцю “Бацькаўшчыны” і падзеямі ў беларускім замежжы ў мінулым годзе Вы можаце пазнаёміцца на нашым сайце zbsb.org.

*Наталля Гардзіенка, Алеся Башарымава*

## АДКРЫТЫ ЛІСТ МГА “ЗБС “БАЦЬКАЎШЧЫНА” Ў АБАРОНУ ГОНАРУ І ГОДНАСЦІ СЯБРА ЗГУРТАВАННЯ ХВЕДАРА НЮНЬКІ

Апошнім часам адбывалася публічнае цкаванне паважанага чалавека – старшыні Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведара Нюнькі. На адрасы беларускіх арганізацый і прыватныя адрасы беларусаў замежжа, а таксама ў сродкі масавай інфармацыі як за межамі, так і ў самой Беларусі рассылаліся лісты, якія ачарнялі асобу спадара Хведара, нівелюючы ўсё, што было за гэтыя гады зроблена ім і ТБК пад яго старшынствам.

У сувязі з гэтым Управа МГА “Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” апублікавала адкрыты ліст, дзе выказвае занепакоенасць сітуацыяй. У прыватнасці, там адзначаецца: “Ад імя МГА “Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” заяўляем, што ведаем Хведара Нюньку як сумленнага, шчырага, адданага беларушчыне чалавека, які большасць жыцця і здароўя ахвяраваў беларускай справе. Хведар Нюнька – адзін з заснавальнікаў і сябра Вялікай Рады Згуртавання “Бацькаўшчына”, сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, адзін з тых, дзякуючы каму працэсы гуртавання беларусаў па-за этнічнай радзімай распачаліся пасля дзесяцігоддзяў савецкага забыцця”.

У лісце нагадваецца пра вялікую 25-гадовую працу на карысць Бацькаўшчыны, зробленую ТБК пад кіраўніцтвам Хведара Нюнькі і шмат у чым яго асабістымі намаганнямі. Так, напрыклад, у Вільні працуе адна з нешматлікіх па-за межамі Беларусі беларуская гімназія, усталяваныя помнікі на магілах беларускіх дзеячаў і дзясятак мемарыяльных дошак, імёнамі знакавых для беларусаў асобаў названыя віленскія вуліцы.

Управа Згуртавання нагадвае, што на кожным справаздачна-выбарчым сходзе сябры ТБК добраахвотна абіралі Хведара Нюньку старшынёй на новы тэрмін, тым самым ухваляючы папярэднюю яго дзейнасць і выказваючы давер на будучае.

“ТБК – арганізацыя, якая заўсёды змагалася за незалежнасць і дэмакратызацыю Беларусі, сама кіравалася дэмакратычнымі прынцыпамі, – гаворыцца ў лісце. – Куды дзеліся прынцыпы дэмакратыі ў кола людзей, якое дазваляе сабе без суда і следства абвінавачваць Хведара Нюньку ў крымінальным злачынстве? Чаму такія пытанні паўсталі менавіта зараз, і каму гэта трэба і выгадна?!”

Ад імя Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” заклікаем спыніць публічную кампанію па ганьбаванні імя і заслугаў Хведара Нюнькі”.

*Цалкам адкрыты ліст можна прачытаць на zbsb.org*

## АБВЕСТКІ

Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына“ выказвае падзяку **Каталін і Сільвестру Будкевічам** за падтрымку арганізацыі.

На сайце ў раздзеле “Беларусь – Артыкулы” з’явіўся **допіс Алега Рудакова** “Аб мовах”.

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА Ў РЫЗЕ АДСВЯТКАВАЛА 20-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ




17 студзеня 2015 г. Рыжская Беларуская асноўная школа імя Янкі Купалы ўрачыста адзначыла свой 20-гадовы юбілей.

У падарунак да гэтай выдатнай даты Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", акрамя цёплых слоў, даслала школе прыгожы гадзіннік і каляндар "Не маўчы па-беларуску!", які ў самой Беларусі займеў вялікі поспех.

20 гадоў – гэта многа ці мала для школы? Для чалавека – гэта такі кавалак часу, за які немаўля вырастае ў дарослую асобу. Беларуская школа таксама за гэты час вырасла з маленькага першага беларускага класа ў далёкім 1994-м годзе ў сапраўдную сучасную школу, якая з гонарам носіць імя нашага славутага Янкі Купалы. Час станаўлення школы не быў лёгкім. Гэта падчас юбілейнай імпрэзы некалькі разоў падкрэслівалі і вядоўца вечарыны дырэктар Ганна Уладзіславаўна Іванэ, і заснавальнікі школы – сябры Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак", і нават госці. Школа за гэтыя 20 гадоў мусіла змяніць 4 адрасы, з кожным пераездам губляла дзяцей, але, нягледзячы на ўсе цяжкасці, дзякуючы апантанасці кіраўнікоў, калектыву настаўнікаў і бацькоў, а таксама дапамозе беларускіх мецэнатаў, цяпер наша беларуская школа плённай працай заслужыла павагу і высокі рэйтынг сярод іншых асноўных школ Рыгі. Адбылося ўжо 12 выпускаў школы, цяпер у 9 класах навучаецца больш за 150 дзяцей, і іх колькасць увесь час павялічваецца.

Ганна Іванэ прыйшла ў школу маладой настаўніцай 19 гадоў таму, 14 гадоў яна ўжо ўзначальвае школу. Таму ўвесь нялёгкі шлях станаўлення і сталення школы – гэта яе шлях, пройдзены разам са сваёй школай. Падчас святочнай імпрэзы некалькі разоў бацькі вучняў беларускай школы пачулі падзяку ад яе, дырэктара, за тое, што прывялі дзяцей менавіта ў беларускую школу. Асаблівую падзяку яна выказвала менавіта бацькам тых першых вучняў, якія калісьці паверылі ў школу і аддалі туды сваіх дзяцей. Гэта цяпер, калі ёсць прыгожы будынак, вялікія светлыя класы, матэрыяльная база, нават музей Янкі Купалы ў школе, аддаць дзіця ў беларускую школу проста. А тады, 20 гадоў таму, усё было інакш. Я таксама вельмі добра памятаю, як нам, бацькам разам з настаўнікамі, трэба было самім клеіць шпалеры ды рабіць іншыя рамонтныя працы ў маленькіх памяшканнях у дзіцячым садку, дзе мы атрымалі для 1-га і 2-га класаў пакойчыкі. І таму гэтыя словы падзякі ад шчырай беларускі Ганны Іванэ сапраўды кранулі сэрца.

А гасцей на святкаванне юбілею нашай беларускай школы ў Рызе сабралася вельмі шмат – і з Беларусі, і з Латвіі, былі і "завочныя" віншаванні. Прагучалі на юбілейнай імпрэзе таксама віншаванні і пажаданні ад Міністра адукацыі Латвіі і кіраўніцтва Дэпартаменту культуры адукацыі і спорту Рыжскай думы. Апрача падарункаў школе і слоў падзякі за плённую працу, дырэктар школы Ганна Іванэ і настаўнікі атрымалі ад Дэпартамента ўзнагароды.

Заснавальнікі Рыжскай Беларускай асноўнай школы – сябры ЛТБК "Сьвітанак" сярод іншых сваіх падарункаў зрабілі адзін вельмі сімвалічны – партрэт латвійскага беларускага асветніка-педагога і фалькларыста Сяргея Сахарава. Гэтым яны падкрэслілі пераемнасць паміж С. Сахаравым – тым, хто амаль стагоддзе таму кіраваў спачатку беларускай гімназіяй, а пазней аддзелам беларускіх школ (а іх тады было каля 50-ці) у Дэпартаменце адукацыі Латвіі і сённяшнімі руплiўцамі захавання беларускасці ў нашай краіне. У сваім віншавальным слове адзін з ініцыятараў стварэння школы і першы яе дырэктар сп. Вячка Целеш падкрэсліў, што ў 1994-м годзе "сьвітанкаўцы" не першымі адчынялі беларускую школу ў Латвіі, а аднаўлялі слаўныя традыцыі беларускай адукацыі ў Латвіі 20–30-х гадоў мінулага стагоддзя. І таму партрэт вялікага беларускага асветніка Латвіі павінен абавязкова знаходзіцца ў Рыжскай Беларускай школе побач з партрэтамі Купалы і Коласа. Сімвалічнымі былі таксама віншаванні і пажаданні сябраў таварыства "Сьвітанак" – унучкі Сяргея Сахарава Нонны Ахметулаевай, адной з першых настаўніц першага беларускага класа – настаўніцы музыкі Наталлі Камілеўскай і аднаго з наймалодшых "сьвітанкаўцаў" – дашкольніка Міколкі Казака, які ў якасці музычнага падарунка выканаў песню "Магутны Божа".

На святкаванні 20-х угодкаў заснавання беларускай школы ў Рызе неаднойчы гучала пажаданне, што ўжо надышоў час, каб нарэшце паўстала наша Беларуская гімназія. Школа за 20 гадоў свайго паспяховага існавання даказала, што яна патрэбная беларусам у Рызе. І таму будзем спадзявацца, што калектыў школы і бацькі сённяшніх вучняў, заснавальнікі школы – сябры Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак", дыпламаты Амбасады Беларусі ў Латвіі, супрацоўнікі Міністэрстваў адукацыі і Латвіі, і Беларусі, Дэпартаменту адукацыі Рыжскай думы, а таксама прадстаўнікі беларускай супольнасці ў Латвіі прыкладуць усе намаганні, каб пажаданне гэтае ў хуткім часе нарэшце спраўдзілася.

*Паводле Таццяны Казак*

*На фота Людмілы Яновіч - віншаванне заснавальнікаў школы - сябраў ЛТБК "Сьвітанак"*

# БЕЛАРУСКАЙ РЭДАКЦЫІ РАДЫЁ ВАТЫКАНА СПОЎНІЛАСЯ 65 ГАДОЎ

6 студзеня споўнілася 65 гадоў Беларускай рэдакцыі Радыё Ватыкана.

Ватыканскае радыё — гэта радыёстанцыя Апостальскай Сталіцы з сядзібай у горадзе-дзяржаве Ватыкан. Заснавана Гульельмам Марконі і ўрачыста адкрыта Піем XI 12 лютага 1931 г.

На сёння налічвае больш за тры дзясяткі рэдакцый, што вяшчаюць на нацыянальных мовах.

Вяшчанне па-беларуску пачалося 65 гадоў таму.

У 1949 г. ініцыятыўная група, у якую ўваходзілі некаторыя беларусы, сярод якіх кс. Пётр Татарыновіч, а. Леў Гарошка, а. Чэслаў Сіповіч (у будучыні біскуп), а таксама інжынер Рыдлеўскі, пачала рабіць намаганні, каб Папскае радыё транслявала свае праграмы і на беларускай мове. Падчас асабістай аўдыенцыі ў папы Пія XII яны прадставілі Святому Айцу зварот з просьбай дазволіць заснаваць праграму для беларусаў.

Пантыфік даў сваю згоду, і 6 студзеня 1950 г. пачалася рэгулярная трансляцыя праграм па-беларуску.

Менавіта Ватыканскае радыё стала першай радыёстанцыяй за межамі Беларусі, якая пачала вяшчанне на беларускай мове. Першым дырэктарам Беларускай секцыі Ватыканскага радыё стаў а. Пётр Татарыновіч.

Беларуская праграма Ватыканскага радыё перадавала навіны аб жыцці Касцёла ў свеце і дзейнасці Пантыфіка. Вялікая частка праграм была прысвечана рэлігійным і адукацыйным тэмам.

Сёння Беларускай рэдакцыяй кіруе а. Аляксандр Амяльчэня.

*"Наша Ніва"*

## У ВІЛЬНІ ХОЧУЦЬ АДНАВІЦЬ БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ



Такую ідэю ў панядзелак прадстаўнікі віленскіх уладаў абмеркавалі з беларускім праваабаронцам Алесем Бяляцкім і дырэктарам Беларускага музея імя Івана Луцкевіча Людвікай Кардзіс.

Паводле афіцыйнага паведамлення віленскай мэрыі, беларуская дыяспара прапануе правесці рэнавацыю музея, які дзейнічаў у Вільні з 1921 да 1945 года і быў закрыты ў гады савецкай акупацыі.

“Беларускі музей у Вільні мог бы стаць тым культурным і асветніцкім асяродздем, у якім беларусы маглі б азнаёміцца з незалежным, сучасным, еўрапейскім поглядам на гісторыю беларусаў і літоўцаў”, — сказаў у часе сустрэчы мэр Вільні Артурас Зуокас.

Алесь Бяляцкі падкрэсліў, што Літва заўсёды асабліва актыўна падтрымлівае культурныя ініцыятывы ў Беларусі, і адзначыў важнасць Беларускага музея ў Вільні як магчымасці аднавіць адукацыйны цэнтр у горадзе, дзе пражывае вялікая колькасць беларусаў і тысячы прыязджаюць у госці.

Цяпер у музея няма экспазіцыйных памяшканняў і дзейнічаць ён не можа. Рукапісы і кнігі з Беларускага музея цяпер знаходзяцца ў бібліятэцы Літоўскай акадэміі навук, прадметная частка экспазіцыі — у Нацыянальным гістарычным музеі.

*“Радыё Свабода”*

IN MEMORIAM

## СМУТКУЕМ З НАГОДЫ СМЕРЦІ АНАТОЛЯ ГРЫЦКЕВІЧА



20 студзеня 2015 года, на 86-м годзе адышоў у лепшы свет знаны беларускі гісторык, прэзідэнт МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” ў 2001-2005 гг., прафесар Анатоль Грыцкевіч.

Анатоль Грыцкевіч нарадзіўся 31 студзеня 1929 года ў Мінску.

Ён быў праўдзейным сябрам Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі (з 1999), ганаровым сябрам МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”, ганаровым сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, сябрам Маскоўскага гісторыка-радаводнага таварыства, ганаровым сябрам Таварыства беларускай культуры ў Літве, ганаровым сябрам гісторыка-культурнага клуба “Спадчына”. Апроч таго, ён адзін з заснавальнікаў Беларус-кага народнага фронту і Таварыства беларускай мовы. Яго аўтарству належаць 7 манаграфій і больш як 1300 навуковых артыкулаў, улічваючы і артыкулы ў энцыклапедыях.

У 2008 г. быў узнагароджаны дыпломам “Пшэглёнду Всходнего” імя Аляксандра Гейштара ў Варшаўскім універсітэце за шматгадовую арганізацыйную дзейнасць у асяроддзі беларускіх гісторыкаў. У 1998 г. міжнародным Кембрыджскім біяграфічным цэнтрам за навуковыя дасягненні прызнаны Чалавекам года. Выступаў на міжнародных навуковых канферэнцыях у Рыме, Парыжы, Лондане, Будапешце, Кракаве, Варшаве, Вільні і Санкт-Пецярбургу.

У 2013 г. у залатой серыі “Беларускага кнігазбору” выйшла кніга гісторыка “Выбранае”, а ўвосень 2014-га – “Сцягі Оршы”, прысвечаная 500-годдзю бітвы пад Оршай.

Цырымонія развітання з Анатолем Грыцкевічам адбылася ў касцёле Святых Сымона і Алены ў Мінску 22 студзеня. Апошні спачын ён знайшоў на Усходніх могілках горада.

***Управа Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” выказвае шчырыя спачуванні родным і сябрам Анатоля Пятровіча ў сувязі з горам, якое іх напаткала. Гэта вялікая страта не толькі для блізкіх Анатоля Грыцкевіча, але і для ўсёй Беларусі. Вечная яму памяць!***

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛЮТЫ 2015 ГОДА

2 лютага - 70 гадоў таму ў савецкім зняволенні загінуў Валянцін Рамановіч (1911-1945), мастак.

3 лютага – 20 гадоў таму ў Мельбурне (Аўстралія) памёр Уладзімір Шнэк (псеўд. Случанскі; 1927-1995), вайсковы, грамадскі дзеяч, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

4 лютага – 500 гадоў таму ў Нясвіжы нарадзіўся Мікалай Радзівіл Чорны (1515-1565), палітычны, культурны і рэлігійны дзеяч Вялікага княства Літоўскага.

4 лютага – 65 гадоў таму памёр Ян Булгак (1876-1950), фотамастак, этнограф, краязнавец.

8 лютага – 205 гадоў таму ў мяст. Ула (цяпер Бешанковіцкі р-н) нарадзіўся Іван Хруцкі (1810-1885), мастак.

9 лютага – 25 гадоў таму, у 1990-м, у Вільні адбылося адкрыццё беларускай нядзельнай школкі.

13 лютага – 310 гадоў таму ў г. Чартарыйск (цяпер Валынская вобл., Украіна) нарадзілася Францішка Уршуля Радзівіл (1705-1753), пісьменніца, драматург.

14 лютага – 215 гадоў таму ў в. Калюжыца (цяпер Бярэзінскі р-н) нарадзіўся Валенці Ванькові́ч (1800 (ці 1799 г.) – 1842), мастак.

16 лютага – 120 гадоў таму ў в. Пяршаі (цяпер Валожынскі р-н) нарадзіўся Франц Кушаль (1895-1968), вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

18 лютага – 170 гадоў таму памёр Ігнат Анацэвіч (1780-1845), гісторык, археограф, педагог.

19 лютага – 125 гадоў таму ў в. Барані (цяпер Астравецкі р-н) нарадзіўся Казімір Сваяк (сапр. Канстанцін Стаповіч; 1890-1926), каталіцкі святар, паэт.

19 лютага – 110 гадоў таму ў Вене памёр Якуб Наркевіч-Ёдка (1848-1905), прыродазнавец, вынаходнік, медык. Пахаваны ў сваім маёнтку Над-Нёман на Уздзеншчыне.

19 лютага – 105 гадоў таму ў Рэчыцы нарадзіўся Палікарп Манькоў (1910-1999), грамадскі дзеяч, кіраўнік СБМ на Слуцкую акругу, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр 16 кастрычніка 1998 г.

19 лютага – 100 гадоў таму ў в. Падлессе (цяпер Ляхавіцкі р-н) нарадзіўся Анатоль Бярозка (сапр. Мітрафан Рэпкаў-Смаршчок; 1915-2008), лекар, паэт, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

20 лютага – 205 гадоў таму памёр Марцін Пачобут-Адляніцкі (1728-1810), асветнік, астраном, педагог.

21 лютага – Міжнародны дзень роднай мовы.

## 2014 ГОД У ІРКУЦКІМ ТАВАРЫСТВЕ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ІМЯ Я. Д. ЧЭРСКАГА

Урачысты прыём мэра Іркуцка “Час. Падзеі. Людзі” ўжо стаў традыцыйным. 16 снежня ў Музычным тэатры імя Загурскага мэр Віктар Кандрашоў узнагародзіў усіх, хто сваёй працай паўплываў на паляпшэнне жыцця горада, была і ўзнагарода найлепшаму нацыянальна-культурнаму цэнтру. Гэты конкурс праходзіць ужо чацвёрты раз, і ўсе гэтыя гады Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Я. Д. Чэрскага ў тройцы наймацнейшых. У 2014 годзе ў нас другое месца! Віншую ўсіх членаў ІТБК і выказваю падзяку ўсяму актыву за праведзеную працу!

ІТБК цягам 2014 г. узяло ўдзел у 21 гарадскім мерапрыемстве, не лічачы праведзеных сваіх уласных: часам былі такія святочныя дні, калі мы былі ў двух месцах адначасова! І гэта стала магчымым дзякуючы разуменню, працавітасці, жаданню нашых сябраў і іх сем'яў.

У праведзенай працы ІТБК умоўна можна вылучыць некалькі групаў. Самая важная і прыемная – правядзенне традыцыйных беларускіх абрадавых святаў. Тут усё прайшло згодна з нашым календаром, удалося арганізаваць выязныя мерапрыемствы ў нашых аддзяленнях: Купалле ў Ахінах і Андрушына, Дажынкі ў Марынінску.

Асветніцкая дзейнасць – беларускія сустрэчы з дзіцяча-юнацкай аўдыторыяй. Расказваем аб з'яўленні беларусаў у Сібіры. Спрабуем прамаўляць беларускія словы. Стараемся разнастаіць заняткі наглядным матэрыялам, заўсёды ўключаем інтэрактыўную частку, дзе ёсць магчымасць дзецям зрабіць ужо нешта самім: перакласці тэкст на рускую мову, змайстраваць традыцыйны выраб з саломкі або вышыць сімвал, правільна сабраць камплект традыцыйнага касцюма, паспяваць, патанцаваць, пагуляць. Быў і міжнародны досвед. З кітайскімі дзецьмі – удзельнікамі фэсту “Лунаючы Фенікс” у Пекіне давялося мець зносіны на невербальным узроўні з дапамогай народнага беларускага танца. На сустрэчах з іркуцянамі на майстравых кірмашах даём майстар-класы па традыцыйных беларускіх рамёствах, а таксама ладзім лекцыі з інтэрактывам у музеях, бібліятэках.

Наша ўнутраная праца, наш асабісты рост, калі сябры ІТБК самастойна і ў калектыве, з дапамогай літаратуры, зносін з аднадумцамі ў Беларусі, іншых рэгіёнаў Расіі вывучаюць святы, рамёствы, песні, танцы, арнамент.

На працягу года наша арганізацыя брала ўдзел у круглых сталах, грамадзянскіх форумах, канферэнцыях, а ўлетку яшчэ і ў фестывалях. Таксама мы займаліся зборам смецця. Цяпер наша задача на 2015 год – выкарыстаць атрыманы досвед ва ўласным “Фестывалі беларусаў свету на Байкале!”

Беларусы – працавітая, мірная нацыя, якая паважае сваю культуру і культуру іншых народаў. У 2014 годзе прайшло шмат сумесных мерапрыемстваў як з некамерцыйнымі арганізацыямі, так і з дзяржаўнымі ўстановамі культуры і адукацыі. Мы ўмеем сябраваць.

Вельмі плённым быў 2014 для ІТБК. Ён быў цудоўны, добры, цёплы, трохі складаны, але ўсё ж спрыяльны. Дзякуй табе, 2014-ты, і здароў, 2015-ты!

*Паводле Алены Сіпаковай*

## НОВЫЯ АРХІЎНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ З ЗАМЕЖЖА

22 студзеня 2015 г. Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва атрымаў дзве пасылкі ад эміграцыйнага гісторыка і грамадскага дзеяча Д-ра Янкі Запрудніка. Адна са скрыняў утрымлівае дакументы з асабістага архіву грамадскага дзеяча Васіля Шчэцькі як з часоў яго навучання ў Лювенскім універсітэце (Бельгія), гэтак і з часоў працы бібліятэкарам Калумбійскага ўніверсітэта ў Нью-Ёрку.

Таксама сярод дасланага можна знайсці дакументы вядомага кампазітара, аўтара музыкі гімну “Магутны Божа” Міколы Равенскага, грамадскага дзеяча ў ЗША Аўгена Кудасава, а таксама матэрыялы, назбіраныя самім Янкам Запруднікам.

Асаблівую каштоўнасць уяўляюць тры нумары беларускага часопіса “Чырвоны шлях”, што выдаваўся ў Петраградзе ў 1918 г. Асобнікі паходзяць з архіва Антона Адамовіча.

Варта адзначыць, што гэта далёка не першыя архіўныя пасылкі, атрыманыя ад Д-ра Янкі Запрудніка. Дасланыя ім матэрыялы складаюць ужо больш за дзясятак скрынак і ўяўляюць сабою каштоўную частку беларускіх замежных фондаў у БДАМЛМ.

Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа і БДАМЛМ выказвае Д-ру Янку Запрудніку шчырую падзяку за ўсе дасланыя матэрыялы.

*bdamlm.by*

## БЕЛАРУСКІЯ ВЫШЫВАНКІ Ў БРАЗІЛЬСКІМ АНТУРАЖЫ

У дыпламатычным прадстаўніцтве Беларусі ў бразільскай сталіцы Бразіліа гасцей сустракае незвычайная “пара” — два манекены ў жаночым і мужчынскім беларускіх нацыянальных строях. Як адзначае саветнік амбасады Сяргей Лукашэвіч, у беларускай дыпламатычнай установе сістэматычна ладзяцца сустрэчы з палітыкамі, грамадскімі і культурнымі дзеячамі, бізнесоўцамі, і гэта цудоўная нагода, каб далёка за межамі Радзімы “на ўсю моц загучаў голас беларускай культуры”: “Імправізаваная выстава мужчынскага і жаночага нацыянальнага строю нязменна прыцягвае позіркі наведнікаў беларускай амбасады. Бразільцы наагул цягнуцца да ўсяго новага, дагэтуль ім невядомага. Разам з выставай рэдкіх карцінаў беларускага мастака Івана Хруцкага, якая ўпершыню знаходзіцца ў Лацінскай Амерыцы і перад адпраўкай у вялікае падарожжа па Бразіліі ўпрыгожвае пасольства, глыбокую зацікаўленасць выклікаюць тлумачэнні пра беларускі арнамент на мове бразільцаў, што яшчэ больш раскрывае мясцовым людзям нашы багатыя культурныя традыцыі, — кажа Сяргей Лукашэвіч, адзначаючы, што такі падыход дапамагае і ў іншай справе. — Так праз вышыванку і старажытную культуру мы паступова прасоўваемся да больш матэрыяльных, эканамічных праектаў, і тым самым “чапляем” першапачатковы інтарэс бразільцаў, не толькі ствараем пазітыўнае ўражанне аб краіне, але і выбудоўваем гандлёвыя адносіны”.

Паводле дыпламата, да бразільскага падарожжа твораў Івана Хруцкага далучацца два ганаровыя консулы Беларусі ў гарадах Сан-Паўлу і Гаяніі. Выставы ў гэтых мегаполісах пакліканыя адкрыць бразільцам новую для іх краіну ў цэнтры Еўропы.

*Паводле “Радыё Свабода”*



# У ЧЫЛІЙСКІХ КАРДЫЛЬЕРАХ УШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ІГНАТА ДАМЕЙКІ




Мемарыяльная дошка-прысвячэнне Ігнату Дамейку з’явілася на гары Сера-Кімаль дзякуючы беларусу Паўлу Гарбунову і кампаніі “Будзьма беларусамі!”

“З падзякай ад беларусаў да грамадзян Чылі, якія дапамаглі Ігнату Дамейку знайсці ў Чылі другую радзіму”, — цяпер гэтыя словы сустрэнуць кожнага на гары Сера-Кімаль. Беларускі турыст Павал Гарбуноў 24 студзеня усталяваў мемарыяльную дошку на найвышэйшым пункце Кардыльеры-Дамейка, што знаходзіцца ў чылійскіх Андах, побач з пустыняй Атакама. Сваё ўзыходжанне Павал прысвяціў нашаму земляку Ігнату Дамейку нездарма. Разам з кампаніяй “Будзьма беларусамі!” ён хоча прыцягнуць увагу беларусаў да знакамітых у свеце асобаў, якія нарадзіліся ў Беларусі, але не так добра вядомыя сёння на радзіме.

Ігнат Дамейка — у свеце асоба паважаная і вядомая (чаго, на жаль, не скажаш пра Беларусь). Імем Дамейкі названа шмат чаго ў свеце: вуліцы ў шматлікіх гарадах, порт, гара, хрыбет і нават невялікі горад у Чылі. Мінерал і астэроід. Нехта падлічыў, што больш за 80 розных аб’ектаў. Чылі ўдзячная Дамейку, які працаваў тут больш за 40 гадоў і з’яўляецца нацыянальным героем гэтай краіны.

“Калі я вырашыў павандраваць па Чылі, мне захацелася наведаць і звязаныя з Дамейкам мясціны. Мяне заўсёды цікавіла, ці ведаюць чылійцы пра Дамейку і што яны ведаюць”, — кажа Павал.

“Сваю “Дамейкініяну” я толькі пачынаю. Першыя апытанкі сведчаць, што Дамейку ў Чылі ведаюць. Канечне, далёка не ўсе. Але прынамсі палова з тых, хто навучаўся ў ВНУ ці неяк звязаны з гарамі, некалькі словаў пра яго сказаць могуць.

Ведаюць яго, на жаль, менавіта як паляка па паходжанні. Нарадзіўся Ігнат Дамейка ў вёсцы Вялікая Мядзведка, што каля Міра — у той час у Расійскай імперыі, навучаўся ў Вільні, усё жыццё лічыў сабе ліцвінам, размаўляў на польскай і іспанскай, пісаў лісты да свайго сябра Адама Міцкевіча, зноў жа па-польску. Дамейка быў вымушаны эміграваць, большую частку жыцця пражыў у Чылі і ўжо ў сталым веку наведаў Беларусь.




Трэба сказаць, што і сама краіна Беларусь выклікае у мясцовых здзіўленне. Польшчу ведаюць. Дарэчы, у Чылі ёсць польская амбасада. Па зразумелых сумных прычынах цяпер ведаюць Украіну. Ведаюць Расію: о-о-о, кажуць, гэта так далёка. Вось так і тлумачым мы звычайна: паміж Польшчай, Украінай і Расіяй. Паспрабуем крыху змяніць сітуацыю. Адкрыць Беларусь чылійцам, а Чылі – беларусам!”

“Дамейкініяна” Паўла Гарбунова толькі пачалася. Кампанія “Будзьма беларусамі!” сочыць за прыгодамі вандроўніка, а на сайце budzma.by неўзабаве з’явяцца захапляльныя матэрыялы пра “марсіянскія” краявіды, “абезгалоўленыя” вулканы і месцы, звязаныя з імем Ігната Дамейкі.

*budzma.by*

# ТРЭЙЛЕРЫ БЛАКБАСТАРАЎ ПА-БЕЛАРУСКУ! ШТОТЫДЗЕНЬ НА БЕЛМУЗТВ

Адна з рубрык новага праекта КінаБлог на тэлеканале БелМузТВ – трэйлер блакбастара па-беларуску. Аўтары праекта — кампанія Cinema Pride, якая стварыла музычныя кліпы Лявону Вольскаму, гуртам “Мутнаевока“ і Akute. Партнёр беларускамоўнай рубрыкі — кампанія “Будзьма беларусамі!”.

КінаБлог — гэта дапаможнік, своеасаблівы гід у свеце добрага кіно. Гэта аўтарскі праект кампаніі Cinema Pride, якая займаецца вытворчасцю тэлеперадач, рэкламных ролікаў, музычных кліпаў (Лявон Вольскі, “Мутнаевока“, Akute).

*Паводле budzma.by*

## ВІНШАВАННІ

# ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў лютым: **Леаніда Гаравога, Арсеня Ліса, Леаніда Лыча** (Беларусь), **Валянціну Шаўчэнка** (Канада), **Аркадзя Крупеньку** (Расія) і **Васіля Астаповіча** (Украіна). Зычым дарагім імяніннікам жыццёвай радасці, светлых пачуццяў, выдатнага здароўя і дабрабыту!



Таксама шчыра віншуем нашых лютаўскіх юбіляраў – 4 лютага 35 гадоў спаўняецца **Змітру Гаўрусіку** (Беларусь), а 21 лютага 60-годдзе адзначае **Мікола Нікалаеў** (Расія). Ад усёй душы жадаем вам, шаноўныя юбіляры, жыццёвай энергіі, аптымізму, моцы і плёну ў працы!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

## ДАПАМОЖАМ ВЯЧКУ ЦЕЛЕШУ ЗНАЙСЦІ МАТЭРЫЯЛЫ ПРА ПЁТРУ МІРАНОВІЧА

Вячка Целеш, старшыня Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар", сябра Рады Згуртавання "Бацькаўшчына" працуе над новай кнігай. Прысвечаная яна будзе беларускім мастакам Латвіі мінулага стагоддзя. І каб завяршыць працу над гэтым грунтоўным праектам, Вячку Целешу трэба дапамога. Найперш, тэрмінова патрэбная інфармацыя пра мастака Пётру Мірановіча, які нарадзіўся ў Латгаліі. Гэта **адзін з найвыбітнейшых беларускіх мастакоў ХХ стагоддзя**, але яго жыццё і творчасць на сёння даследаваныя мала. Мы распыталі спадара Вячку пра працу над яго кнігай і пра тое, якой інфармацыі пра Пётру Мірановіча для яе не хапае.

**Калі і як у вас паўстала задума напісаць аб гэтым мастаку?**

Задума напісаць пра Мірановіча з'явілася ў канцы 1980-х гадоў. У пачатку 1980-х гадоў у Рызе я сустракаўся з беларускім паэтам у Латвіі, выпускніком Люцынскай дзяржаўнай беларускай гімназіі 1925 года Пятром Саколам (Масальскім), які расказваў пра беларускіх мастакоў, што скончылі гэтую і Дзвінскую дзяржаўную беларускую гімназіі. Адным з іх быў Пётра Міранові. У 1989 годзе я атрымаў адрас Мірановіча ад Ірыны Вількель (Сахаравай), дачкі вядомага беларускага педагога і фалькларыста. (…) Я тады напісаў ліст мастаку ў Амерыку, каб ён мне напісаў пра сябе, але, на жаль, не атрымаў адказу: аказалася, мастак ужо моцна хварэў і хутка памёр.

На жаль, тады па розных прычынах у мяне не атрымалася адразу і своечасова скончыць працу па даследаванні яго творчасці. Аднак я паспеў яшчэ ў 1990-х гадах атрымаць успаміны пра яго ад Раісы Жук-Грышкевіч, ад Вітаўта Кіпеля, які, дарэчы і зараз абяцаў мне сёе-тое даслаць.

**Раскажыце, калі ласка, больш падрабязна, як ідзе збор матэрыялу для кнігі? З якімі цяжкасцямі Вам даводзіцца сутыкацца?**

У Латвіі я даследаваў жыццё і творчасць Пётры Мірановіча ў архівах і на месцах, дзе нарадзіўся і жыў мастак, атрымаў успаміны ад яго родзічаў, знайшоў некаторыя яго працы.

Цяпер мне для таго каб скончыць працу, неабходна атрымаць інфармацыю пра яго жыццё ў Амерыцы. Найперш патрэбныя каляровыя фотаздымкі яго карцін, якіх ён там шмат намаляваў, і яны ёсць амаль у кожнага вядомага беларуса Амерыкі і Канады. Вельмі патрэбныя здымкі карцін Мірановіча, якіх было шмат у яго доме ў Брукліне.

На жаль, вялікая праблема ў атрыманні гэтых здымкаў. Я разумею, старое пакаленне беларусаў ЗША і Канады ў такім узросце, што складана нешта рабіць, але на мае просьбы пакуль не адгукнуліся нават маладзейшыя беларусы. Можа, гэтая наша гутарка нагадае ім яшчэ раз аб маёй просьбе, можа, адгукнуцца і дапамогуць мне і тыя, хто да гэтага не ведаў аб маёй працы і пошуках. Я вельмі буду ўсім удзячны і ў кнізе не забуду згадаць пра іх дапамогу, і, канечне, усе яны атрымаюць выдадзеную кнігу.

**Як Вы мяркуеце, калі кніга можа быць гатовая?**

Калі я атрымаю дастаткова матэрыялу для кнігі да сакавіка гэтага года, то, магчыма, сёлета яна будзе надрукаваная.

*Шаноўныя сябры! Калі вы маеце магчымасць дапамагчы Вячку Целешу ў зборы матэрыялаў па амерыканскім перыядзе жыцця Пётры Мірановіча, мы заклікаем вас адгукнуцца. Даслаць здымкі карцін мастака і іншыя матэрыялы вы можаце праз электронную скрынку* ***zbsb@tut.by****, або* ***celess@inbox.lv***

**Даведка**

**Вячка Целеш** — беларускі мастак, краязнавец, філакартыст. Нарадзіўся ў 1938 годзе на Гарадзеншчыне, жыве ў Рызе. Сябра Вялікай Рады Згуртавання Беларусаў свету "Бацькаўшчына". Сябра Саюза мастакоў Беларусі і Латвіі. Стваральнік і старшыня Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар". Ініцыятар стварэння і першы дырэктар беларускай школы ў Рызе, якая нядаўна адзначыла сваё 20-годдзе. Аўтар шматлікіх партрэтаў беларускіх і латышскіх дзеячаў, іншых жывапісных і графічных работ. Яго карціны маюцца ў музеях і прыватных зборах Беларусі, ЗША, Канады, Кітая, Расіі, Ізраіля, Латвіі, Даніі, Партугаліі, іншых краін Еўропы. У 2006 годзе ўшанаваны найвышэйшай узнагародай Латвіі — Ордэнам Трох Зорак.

Вячка Целеш – аўтар кніг: "Мінск на старых паштоўках", "Рыга на старых паштоўках", "Гарады Беларусі на старых паштоўках" (гэтая кніга чатыры разы перавыдавалася, апошняе яе выданне пабачыла свет у снежні мінулага года),таксама аўтар кнігі "Адсюль наш род, тут мой прычал" (2013 г.)

**Пётра Міранові** — выбітны беларускі мастак. Нарадзіўся ў Латвіі ў 1902 годзе. Скончыў Латвійскую акадэмію мастацтваў. Таксама вучыўся ў майстэрнях знаных латышскіх майстроў жывапісу – прафесараў Яніса Кугі ды Гедэрта Эліяса. Ранняя творчасць мастака была прысвечаная пейзажам Латгаліі, тэматыцы вясковага жыцця латгальскіх беларусаў, партрэтам беларускай інтэлігенцыі. Для алтара Піедруйскага касцёла Пётра Міранові намаляваў абраз Божай Маці.

Пасля заканчэння акадэміі Міранові шмат займаўся педагагічнай дзейнасцю, быў сябрам Таварыства беларускіх настаўнікаў Латвіі.

У 1944—1945 Міранові вучыўся ў Венскай акадэміі мастацтваў у Аўстрыі. У 1950 пераехаў з сям'ёй у Нью-Ёрк, дзе напісаў шмат партрэтаў беларускіх эмігрантаў. Яго карціна "Беларускія эмігранты" атрымала вялікую папулярнасць. Таксама ён працягваў ствараць вобразы латгальскіх пейзажаў, малюючы іх з накідаў і фотаздымкаў, якія прывёз з сабою. У 1964 годзе Беларускі інстытут навукі і мастацтва зладзіў персанальную выставу Мірановіча ў Нью-Ёрку, дзе экспанаваліся 63 ягоныя працы.

Цягам усіх 40 гадоў, што ён жыў у Амерыцы, Пётра Міранові удзельнічаў у мастацкіх выставах, чытаў лекцыі, пісаў артыкулы пра беларускую культуру і асвету, афармляў выставы. Памёр мастак у 1990 годзе.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*
*Друкуецца ў скароце.*
*Поўная версія на сайце zbsb.by*

АБВЕСТКА

## КОНКУРС ВІДЭА-ІНТЭРВ'Ю "ПАМЯЦЬ НАРОДА"

Беларускі архіў вуснай гісторыі анансуе конкурс відэа-інтэрв'ю "Памяць народа". Арганізатары прапануюць запісваць успаміны людзей сталага веку на відэа.

Для ўдзелу ў конкурсе неабходна правесці размову з чалавекам сталага веку, запісаць яго ўспаміны на відэа. Самыя цікавыя з іх даслаць альбо перадаць арганізатарам конкурсу. Незалежнае журы і галасаванне вызначаць трох пераможцаў. Падрабязныя ўмовы конкурсу можна пачытаць на сайце Беларускага архіва вуснай гісторыі.

Арганізатары спадзяюцца такім чынам зацікавіць маладых людзей лёсамі сваіх родных, сваякоў і знаёмых старэйшага пакалення.

Апошні дзень прыёму конкурсных відэа-інтэрв'ю – 15 красавіка.

Звязацца з арганізатарамі можна праз старонкі ў сацсетках, канал Youtube "Памяць Народа", і па электроннай пошце info@nashapamiac.org. На сайце праекта Беларускі архіў вуснай гісторыі можна знайсці падрабязныя тлумачэнні, як і куды дасылаць відэа.

*Паводле tut.by*

# АРХІЎ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА – ЗБІРАЙМА РАЗАМ!

Шаноўнае спадарства!

Беларуская прысутнасць у замежжы налічвае стагоддзі. Актыўнае ж стварэнне і дзейнасць структур беларускай дыяспары ідзе ад пачатку XX ст. Арганізацыі, цэрквы, творчыя калектывы, суполкі дзейнічаюць сёння ў больш як 20 краінах свету. На жаль, у Беларусі найчасцей толькі спецыялісты ведаюць пра дасягненні і значнасць дзейнасці беларусаў замежжа для ўсёй беларускай нацыі. Толькі некаторыя імёны і падзеі беларускага замежжа апошнімі гадамі вяртаюцца ў супольную беларускую скарбонку. Для гісторыі, сучаснасці і будучыні нашай нацыі надзвычай важна, каб сведчанні гэтай дзейнасці збіраліся, захоўваліся, даследаваліся, вывучаліся і папулярызаваліся ў Беларусі.

З гэтай мэтай у чэрвені 2014 г. пры падтрымцы "ЗБС "Бацькаўшчына" пры Беларускім дзяржаўным архівемузеі літаратуры і мастацтва паўстала навукова-творчая ініцыятыва "Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа".

Цэнтр мае на мэце наладзіць сістэматычны збор дакументаў, друкаў, любых артэфактаў, што ствараліся і ствараюцца беларусамі па-за межамі Беларусі. Будзе наладжаная праца па своечасовай апрацоўцы і сістэматызацыі гэтых архіваў, дзякуючы чаму даследчыкі атрымаюць больш поўную і адэкватную інфармацыю пра дзейнасць беларускіх арганізацый за мяжой. Аднак паспяховасць гэтай місіі наўпрост залежыць ад зацікаўленасці і саміх арганізацый беларускага замежжа.

У сувязі з гэтым звяртаемся да ўсіх суполак замежжа з просьбай-заклікам дасылаць у Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа ўсё, што тычыцца публічнай дзейнасці: дакументы, абвесткі, улёткі, праграмы мерапрыемстваў, друкаваныя выданні, арганізацыйныя дакументы і іншае – усё, што дапаможа будучым даследчыкам вывучаць вашую дзейнасць і такім чынам захоўваць і фіксаваць гісторыю беларускага замежжа.

Надзвычай важна, каб у Цэнтр перадаваліся не толькі архіўныя матэрыялы, але і тыя, што тычацца сучаснай дзейнасці.

Заклікаем прыватных асобаў – творчых і грамадскіх дзеячаў – перадаваць у Цэнтр свае ўласныя архівы. Яны каштоўныя для даследчыкаў!

Свае архіўныя зборы ўжо перадалі вядомыя дзеячы замежжа Масей Сяднёў, Алесь Алехнік, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Аляксей Каўка і іншыя. У 2014 г. у архіў была перададзеная вялікая калекцыя дакументаў Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк).

**Дасылаць ці перадаваць дакументы і матэрыялы просім на адрас:**

Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва
Вул. Кірыла і Мефодзія, 4.
220030, Мінск
Беларусь

Тэл.: +375(17)3274781.
E-mail: nhardzijenka@gmail.com; bdamlim@tut.by.

Супольнымі намаганнямі мы зможам захаваць памяць пра беларускую прысутнасць у свеце і зрабіць беларусаў замежжа больш бачнымі і сучаснікам, і нашчадкам А імёны людзей, што перадалі архівы і навіны дзейнасці Цэнтра, мы будзем публікаваць на сайце Згуртавання "Бацькаўшчына" і ў бюлетэні "Беларусы ў свеце".

*Наталля Гардзіенка,*
*Старшыня Цэнтра, сябра Рады*
*і Управы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

**Да ведама:** "Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа" – архіўная кансультацыйная і даследчая структура, прызначаная для садзейнічання выяўленню, захаванню, апісанню, вывучэнню і папулярызацыі дакументальнай спадчыны беларускага замежжа (больш інфармацыі пра яе можна знайсці на сайце: http://bdamlm.by/centr-kamplektavannya-i-vyvuchennya-dakumentalnay-spadchyny-belaruskaga-zamezhzha)

# БНП АДШУКАЛА ПАХАВАННІ АНТОНА АДЫНЦА І КАЗІМІРА АЛЬХІМОВІЧА



*Магіла Антона Адынца*



*Магіла Казіміра Альхімовіча*

Дзякуючы краязнаўчым перадачам Беларускага Радыё Рацыя і фільму Белсат з цыклу "Гісторыя пад знакам Пагоні", сябры "Беларускай Нацыянальнай Памяці" адшукалі ў Варшаве магілы сябра Таварыства філарэтаў, паэта і перакладчыка Антона Адынца і беларускага мастака Казіміра Альхімовіча. Сябры БНП прыбралі магілы і запалілі на іх зьнічы.

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя", "Белсат"*

**Беларусы ў свеце**
№1(153), студзень 2015

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27